Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грош.

# Зорка Беларуса

## АДНАДНЁЎКА

Вільня, Субота 25-га ліпня 1925 г.

## „Крыжавы паход".

Адзін нямецкі буйны прамысловец, Арнольд Рэхбэрг, вядомы тым, што йшчэ ў часе сусьветнае вайны на ўласную руку распачаў крокі дзеля прымірэньня Нямеччыны з Францыяй, за што і быў Вільгэльмам выдалены з нямецкае арміі, — меў нядаўна гутарку з італьянскім журналістам, у якой расказаў цікавыя пляны нямецкіх нацыяналістычных кругоў.

Рэхбэрг, як відаць з яго слоў, працуе і цяпер над ідэяй аб'яднаньня нямецкіх, французскіх і англійскіх нацыяналістаў (правільней: буйнага капіталу гэтых трох дзяржаў!) — на груньце барацьбы з камунізмам у пастаці *„крыжавога паходу" проці СССР.* Нямецкі капіталіст праектуе арганізацыю двухміліённае міжнародавае арміі дзеля паходу проці СССР і навет назначае глаўнакамандуючага яе — нямецкага генарала Гоффмана, аднаго з выдатнейшых памоцнікаў Гіндэнбурга ў часе сусьветнае вайны — на ўсходнім фроньце...

Мы верым, што грошы на гэтае прадпрыемства знойдуцца. Трудней будзе з людзьмі, якія пайшлі-бы ў гэную армію, бо-ж хіба кожнаму ясна, што *самі капіталісты ваяваць ня будуць, а... пашлюць работнікаў і сялян*! Але і гэта йшчэ ня ўсё.

Справа ў тым, што, згодна з газэтнымі весткамі, Англія мо' раней за пана Рэхбэрга пачала працаваць у тым-жа кірунку, толькі яе план — у тым, каб *пакіраваць проці СССР... яго найбліжэйшых суседзяў*: балтыцкія дзяржавы, Польшчу, Румынію. — Англія, відаць, мае мала надзеі на тое, каб яе працоўныя пайшлі ваяваць дзеля ратаваньня ў сябе капіталістычнага ладу, і хоча выкарыстаць дзеля гэтага страх малых суседак СССР за самае іх істнаваньне побач з гэткім волатам. Есьць весткі, быццам Англія ўзлажыла на латвійскага міністра Мэеровіца місію распачаць крокі дзеля паразуменьня між названымі суседкамі СССР у справе ўтварэньня *супольнага ваеннага фронту проці радавых рэспублік.* Адначасна тая-ж Англія згаварываецца з Эстоніяй аб прадажы апошняй англічанам двух астравоў на Балтыцкім моры дзеля ўстройства тамака *ваеннае базы для англійскага флёту.* Ясна, дзеля якое мэты хоча Англія мець свой ваенны флёт на Балтыцкім моры — насупраць старое расейскае сталіцы Пецярбурга, цяперашняга Ленінграду!

Ясна такжа, што гэтыя пляны ня могуць ня выклікаць трывогі сярод тых народаў, рукамі якіх Англія зьбіраецца цягаць гарачую бульбу з печы для сваіх капіталістаў. Навет польскія эндэкі як раз у гэты мамэнт многа гавораць аб патрэбе згоднага сужыцьця з *СССР*, хаця паны „пілсудчыкі" не прапусьцілі-бы здарэньня, каб „уславіць" польскае аружжа і свайго „каманданта". З другога боку і сярод латвійскага грамадзянства вестка аб місіі, узложанай на Мэеровіца, выклікала такое ўзварушэньне, што ўрад Латвіі афіцыяльна запярэчыў гэтай вестцы...

Ня можам прайсьці моўчкі міма англійскіх плянаў і мы, беларусы. Ня можам, бо-ж *магчымая вайна разыгралася-бы перад усім на Беларускай зямлі*, так страшэнна спустошанай ужо сусьветнай вайной. Але і гэта — ня ўсё: бо ваюючыя староны бралі-б на вайну ў свае арміі ўсё тых-жа сыноў беларускага народу, які падзелены на часткі рыжскім мірам, і гэтак *брат быў-бы прымушаны ваяваць проці брата....*

Мы спадзяемся, што суседнія з СССР народы, ня гледзячы на ўвесь ваяўнічы пыл іх мілітарыстаў, выявяць здаровы розум і добрае зразуменьне сваіх інтарэсаў, што яны ня згодзяцца іграць недастойную ролю наймітаў англійскага ці якога іншага капіталу.

## Ваукі у авечай скуры.

У часе праходжаньня ў Сойме закону аб парцэляцыі і асадніцтве выясьнілася з апошняй яснасьцю, хто ў Польшчы прыяцель, а хто вораг польскаму і няпольскаму сялянству і зьвязанай з ім клясе сельскіх работнікаў. Прышлося ў апошні мамэнт паказаць свой запраўдны твар усім тым, хто ў часе выбараў крывадушна скарыстаў з даверыя сялянскіх масаў і праз усе гэтыя тры гады туманіў іх мазгі на мясцох, прадаючы іх кроўныя правы і інтарэсы ў Сойме.. Беларускае сялянства павінна добра дазнацца і запамятаць усіх гэтых Юдаў-здраднікаў, якія цяпер зусім выразна і бесаромна прадаліся абшарнікам і буржуазіі.

Зусім выразна Сойм падзяліўся на 2 няроўныя часткі. **Вернымі сялянству дацанца** асталіся толькі беларусы, украінцы, „Niezależna Partja Chłopska" і Камуністычная Пасольская Фракцыя. **Проці ўсяго сялянства**, згуртаваўшыся і аб'яднаўшыся разам з найгоршым ворагам яго — абшарнікамі, сталі ўсе іншыя партыі і групы Сойму, утварыўшы **адзіны фронт — Хіена-Пяста-Пэпэсаўска-Вызваленскі**, падтрымліваны неяк збоку яшчэ і жыдоўскім клюбом...

Найбольш балюча, але найбольш неабходна беларускаму селяніну даведацца аб тым, як у справе зямлі для яго захаваліся тыя дзьве польскія партыі, якім беларускі селянін аддаў на выбарах шмат сваіх галасоў: Вызваленьне і Пэпэсы.

Дык вось мы і скажам яму ўсю праўду аб гэтых партыях.

Сьпярша вызваленцы, — пад націскам запраўдна-сялянскіх партыяў і ў паразуменьні з імі, — распачалі так-званую абструкцыю, гэта значыць — бачучы, што ўсё роўна закон аб асадніцтве пройдзе праз Сойм, рабіць прынамся найбольш перашкодаў, а мо' і сарваць яго, калі ўдасцца, з парадку дня, — каб не рабіць маны сялянству і Эўропе...

Але вызваленцы рабілі гэта толькі дзеля віду, бо адначасна цішком, за нейкія зусім дробныя, а перад усім нічога, але-ж абсалютна нічога не даючыя беларускаму сялянству „ўступкі" з боку.. „Пяста", зрабілі з гэнай кулацкай партыяй „пакт", — таксама, як калісьці „Пяст" зрабіў „пакт" з „Хіенай". І вось у тую суботу вызваленцы перайшлі ўжо адкрыта на бок буржуазіі і проці сялянскага блёку. Пакінуўшы барацьбітаў за сялянскую справу, Вызваленьне адмовілася ад тактыкі абструкцыі, і тады галасаваньне над папраўкамі пайшло ўскач! Прымаліся толькі папраўкі, карысныя абшарнікам, праваліваліся ўсе, карысныя сялянству.

Ад вызваленцаў не адставалі і Пэпэсы, яны зусім перасталі навет сароміцца, і заўсёды ня толькі галасавалі з „Хіена-Пястам", але вядуць з ім дзесь у габінэце Маршалка Сойму (пастоўца) нейкія тайныя нарады, на якіх **ППС заступіла мейсца, байкатуючы праект „Хрысьцьянскіх абшарнікаў" — „дубадэкаў"** (дзе лідэрам п. Строньскі)..

Вось што літэральна надрукавана ў газэце „Kur. Polski": „У габінэце п. маршалка адбылася ўчора (16/7) канфэрэнцыя, у якой прымалі ўчасьце паслы: Вітас і Осецкі („Пяст"), Морачэвскі (ППС), Гломбіньскі і Станішкіс (эндэкі), Хаціньскі і Бітнэр (хадэкі)... **дасягнута паразуменьне ў справе большасьці паправак, якія будуць заяўлены ў часе трэцяга чытаньня**"...

Брава, паны пэпэсы! Цынізм гэтых паноў перайшоў усе граніцы: так запраўды можа вясьці сябе толькі абнаглеўшы дарэшты панскі лякай перад абдзіраным імі абыдвума згалелым „хлопам".

„Walka Wioski" перадае вельмі характэрную рысу. — „Калі пас. Галавач (з „Незал. Партыі Хлопскай"), матывуючы сваю папраўку, пачаў казаць аб тым, што польскі селянін ня хоча крыўдзіць беларускага і ўкраінскага, але наадварот хоча паразумецца з імі і аб'яднацца, каб супольным высілкам зваліць буржуазна-абшарніцкае панаваньне ў Польшчы і стварыць „сялянска-работніцкі ўрад"... Дык старшынстваваўшы віцэ-маршалак Сойму п. Морачэвскі (ППС) рэзка абарваў аратара, патрэбаваўшы, каб той казаў больш „до жэчы" (да рэчы, — ці бліжэй да справы). Бо-ж зразумела — тая вывеска, якая налеплена на газэце ППС „Robotnik", якраз аб гэтым самым работніцка-сялянскім урадзе („Niech żyje rząd robotniczo-włościański!"), запраўды-ж аказываецца „не да рэчы", калі даходзіць дзела да маёнткаў абшарнікаў — родных бацькоў лідэраў партыі П.П.С.

Уся шчырая сялянская частка Сойму дала тут-жа дастойную „адправу" абаронцы абшарнікаў, зрабіўшы нячуваны ў Сойме скандал, крычучы: „Вон лякая абшарнікаў", „Далоў з кантрактам абшарніцка-пэпэсаўскім" і г. д.

Маючы такіх саюзьнікаў, як ППС і Вызваленьне, правіца зусім страціла меру. У сваім „шляхотным абурэньні" на абструкцыю з боку ўсіх „камуністаў", яе паслы кінуліся на паслоў беларускіх і ўкраінскіх, і ў Сойме пачалася запраўдная бітва...

Хай-жа беларускія сяляне добра запамятаюць аб гэтых рашучых днях у Сойме: хто і як бараніў іх правы, а хто нягодна здрадзіў іх інтэрэсы.

## Кары за абструкцыю.

За абструкцыю пры трэцім чытаньні ў Сойме крыўднага для беларускага працоўнага сялянства законапраекту аб парцэляцыі і асадніцтве — маршалкам Сойму пакараны выключэньнем на 3 паседжаньні і штрафам на 460 зл. кожны гэткія дэпутаты:

1) **З Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады:** Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Мятла і Валошын, — значыць, усе належныя да гэтае групы дэпутаты;

2) **З Клюбу „Niezależna Partja Chłopska"**: Шакун, Воевудзкі, Фідаркевіч і Бон;

3) **З Камунстычнае Пасольскае Фракцыі**: Пашчук.

Усіх гэтых 9 дэпутатаў маршалкоўская варта вынесла з салі паседжаньняў на руках.

Штрафы, наложаныя на беларускіх дэпутатаў пры другім і трэцім чытаньні законапраекту, дасягаюць цяпер гэткае сумы:

1) Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада — **3.370 злотых**;

3) Беларускі Пасольскі Клюб — **430 злотых.**

Гэтак дэпутаты — сябры „Грамады" — за летнія месяцы блізу зусім не атрымаюць дэпутацкай пэнсіі, якая будзе залічацца на штрафы.

## Мамэнт пералому.

Польскія „сацыялісты" з партыі ППС, каб укрыць свой уласны нацыяналізм, заўсёды заяўлялі, што яны ня могуць ніяк дагаварыцца з беларускімі соймавымі прадстаўнікамі затым, што тыя, бач, „нацыяналісты".

Але ж вось сярод беларускіх дэпутатаў стаўся раскол: з Беларускага Пасольскага Клюбу выдзелілася група паслоў, якія ў аснову сваей палітычнай плятформы паклалі перадусім клясавую адзнаку. Гэта паказвае самы назоў „Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады", дый усе выступленьні сяброў яе на соймавай трыбуне.

І ў той самы мамэнт, як новая беларуская група выступіла на барацьбу з законапраектам аб польскім асадніцтве на Беларускай зямлі — **у імя сацыяльных інтарэсаў беларускіх працоўных масаў,** партыя ППС стварыла адзіны нацыянальны польскі фронт разам з польскімі кулацкімі і нацыяналістычнымі партыямі, паказаўшы, што для польскіх сацыялістаў галоўную вагу мае не сацыялізм, не інтарэсы працоўных, а польскі „агульна-нацыянальны" ідэал, які абыймае ўсе польскія клясы і станы, не выключаючы і польскага абшарніка і капіталіста...

Дый гэта ня ўсё.

Польскія „сацыялісты", праводзячы разам з эндэкамі закон аб калянізацыі „Усходніх Крэсаў", абдорылі беларусаў якраз такім уставам, каторы іменна творыць грунт дзеля нарадзін фактычна

## Ком'ячэйкі сярод войска.

У Варшаве зьліквідована арганізацыя Камсамольцаў у ліку 30 чал., мэтаю якіх было—заўладаць варшаўскім гарнізонам. Кіраваў усім гэтым Цэнтральны Камітэт польскай камун. партыі.

Знайшлі многа адозваў, якія былі прызначаны для войска. Сьледзтва вядзе сьледчы судзьдзя пан Люксэнбург.

## Мітынг пратэсту безработных у Сасноўцу.

У польскім месьце Сасноўцу адбыўся вялікі мітынг 4.000 безработных, на якім, як піша „Robotnik“, раздаваліся „вельмі бурныя, дышачыя адчаем людзей галодных і гатовых на ўсе прамовы“.

На мітынгу зрабіў даклад сам сацыялістычны прэзыдэнт места (П.П.С.), які сьцьвярдзіў „крывадушную палітыку ўраду, што толькі корміць абяцанкамі даць крэдыты на публічныя работы, але абяцанак гэтых не спаўняе“.

Але падтрымліваючыя той „крывадушны ўрад“, пэпээсы спрытна выпусьцілі абураную энэргію безработных „у трубу“—праз лоўка зложаную, доўгую рэзалюцыю. І 4.000 галодных работнікаў, сьпяваючы „Чырвоны Штандар“, „з крыкамі ў чэсьць сацыялізму“ (польскага)—пайшлі дамоў да такіх-жа галодных жонак і дзетак.

## Няўдалае „паляваньне“.

Газэты паведамілі, што шмат дзе ў Польшчы абшарніцкія арганізацыі і наагул правыя партыі энэргічна рыхтаваліся да праектаванай забастоўкі сельскагаспадарчых работнікаў, творучы з сваей моладзі атрады і баёўкі скаўтаў—штрэйкбрэхераў у помач паліцыі, і мо' і ваенным камандам. Але, нажаль, забастоўка стрымана, і ўсё гэтае „цьвічэньне“ ці паляваньне школьнай моладзі на галодных работнікаў на летніх вакацыях трэба адлажыць на іншы раз.

Добрую школу праходзіць моладзь у Польшчы, няма што казаць.

## Гарэлка ратуе.

Бюджэт Польскай Дэмакратычнай Рэспублікі, у якім выдаткі амаль што не напалову йдуць на войска, у сваей даходавай частцы ў значнай меры пабудаваны на фінансавым выкарыстаньні і падтрыманьні—народнага п'янства.

У 1924 г. ў Польшчы выпіта сьпірту 51 міліён 132 тысячы 259 літраў (літр на чэцьверць больш кварты). З акцызу на сьпірт дзяржаўны скарб спагнаў 183 з паловай міліёны злотых.

У сёлетнім годзе за 5 толькі месяцаў скарб спагнаў з спажыўцоў гарэлкі і курцоў тытуну аж 141 міліён. Як ведама, абедзьве гэтыя атруты, дурманячыя мазгі і душу народу, скарб узяў на сябе, як манаполію. Так было і ў царскай Расеі.

## Характэрная статыстыка.

„Walka Wsi“ дае вельмі цікавую статыстыку школьніцтва ў Польшчы.

На 10.000 жыхароў Францыя мае 1.200 вучняў пачаткавай (народнай) школы, Чэхаславакія аж 1.580, Польшча—1.180; гэта—для „хамаў“.

А на тыя-ж 10.000 жыхароў-вучняў сярэдняй (гімназіяў і інш.) Францыя мае 38, Чэхаславакія—41, а Польшча дык навет—83. Бо гэтая вышэйшая школа для панскіх дзяцей.

# Заграніцай.

## Сэнсацыйная прамова Фрунзэ.

Нямецкія газэты падаюць выняткі з прамовы, якую сказаў да жаўнераў чырвонай арміі галоўны камандзір усіх арружных сілаў СССР, Фрунзэ.

Быццам ён сказаў: „Саюз расейскага льва з кітайскім драканам мае сілу перавярнуць дагары нагамі ўвесь сьвет. Рыхтуючыся да неспадзяваных выпадкаў, мы павінны быць добра азброены, каб мець сілу стаць проці Англіі. СССР лучыць з Кітаем палітычны трактат (умова), — дык мы ня можам бясчынна глядзець, як так званыя вялікія дзяржавы пачнуць дзяліць Кітай“.

## Нямецкая дэлегацыя ў Маскве.

20/VII у Маскву прыехала з Ленінграда нямецкая дэлегацыя рабочых.

## Француская прэса аб ноце Нямеччыне.

Нямецкая нота была прынята Брыянам вельмі холадна.

Француская газ. „Matin“ кажа, што перагаворы аб пакце бясьпечнасьці будуць вельмі трудныя, бо, як кажа „Pet. Par.“, немцы, высылаючы гэтую ноту, не хацелі прыняць ніякіх забавязаньняў, а толькі хочуць схіліць саюзьнікаў да далейшых перагавораў.

Газэты пішуць, што Штрэзэман у верасьні мае прыехаць ў Жэневу, каб там спаткацца з Брыянам і Чэмбэрленам.

## Нарвэжскія работнікі і Ліга Народаў.

Нарвэжскія работнікі праз сваіх прадстаўнікоў у парляманце падалі прапазіцыю, каб Нарвэгія безадкладна выйшла з Лігі Народаў. Большасьцю галасоў прапазіцыя адкінута.

## Нямеччына заказала 1000 аэрапланаў у Галяндыі.

У Лёндане ходзяць чуткі, што немцы заказалі ў аднэй вялікай галяндзкай фабрыцы 1000 аэрапланаў. Англійскі ўрад зьбіраецца праверыць гэтыя чуткі.

## Вугальны крызіс у Англіі.

Фундамант усей англійскай прамысловасьці—вуглякопства — трашчыць па ўсіх напрамках. Побач з замежнымі трывогамі і стратамі Англіі ў Кітаі, Індыі, Ягіпце і інш., гэты ўнутраны крызіс зусім абязуладнівае край. Справа ў тым, што Англія — напярэдадні агульнай забастоўкі горнаработнікаў, якая можа выліцца ў нешта вельмі грознае па сваім пасьледзтвам на фоне агульнага дзяржаўнага крызісу гэтай вялікай імпэрыялістычнай дзяржавы. У хуткім часе канчаюцца гарантаваныя ўрадам умовы паміж работнікамі і вугальнымі прамыслоўцамі, і паўстане справа новых дагавораў. Прамыслоўцы згары заявілі, што панізяць плату работнікам, бо інакш не здалеюць утрымаць шахтаў. Можна быць пэўным, што да паразуменьня ня дойдзе: за гэта гарантыяй — сучасны ўрад, які зьяўляецца экспазытурай прамыслоўцаў. Трэба спадзявацца вялікіх забурэньняў...

Трэба ведаць, што вугальныя прамыслоўцы найчасьцей не зьяўляюцца ўласьнікамі, а амаль не заўсёды толькі арэндарамі вугальных багацьцяў, якія належаць да вялікіх абшарнікаў (лэнд-лордаў). Гэтыя абшарнікі і бяруць сабе львіную долю заробку з прадпрыемстваў, ня робячы літэральна нічога. Дык зразумела, што, калі-б работнікі даканца стаялі ў сваей барацьбе, дык для ратаваньня прамысловасьці, ад якой залежыць ня толькі дабрабыт, але папросту самы быт краю, Англіі прыйшлося-б прынясьці ў ахвяру гэтых нікому і ні на што непатрэбных абшарнікаў... Якраз работнікі ў Англіі і высоўваюць гэты акт, як першы ў сваей „вугальнай праграме“. Нацыяналізацыя вугальных абшараў гэткім чынам—вось чародная сацыяльна-палітычная рэформа, чародны ўдар па адным з слупаў буржуазнай Англіі, якая мо' пачне рад далейшых грунтоўных пераменаў, калі хоча запраўды адратавацца ад пагражаючай ей небясьпекі.

— У апошні мамэнт паведамляюць з Лёндану,

# Б а й.

Бегаў бай па сьцяне
У чырвоным каптане,
Байку баіў. Ой, лю-лі!
Жылі пчолкі у вульлі...
Баіць ці не?
— Баіць!

Бегаў бай па сьцяне...
Шла вясна па вясьне,
Жылі пчолкі з году ў год,
Бралі ў соты з кветак мёд...
Баіць ці не?
— Баіць!

Бегаў бай па сьцяне...
Ніхто пчолак не кране;
Самі мёд зьбіраюць той,
Самі ласваюць зімой...
Баіць ці не?
— Баіць!

Бегаў бай па сьцяне...
У тэй самай старане
Пустапасам труцень жыў,
Неяк з пчолкамі здружыў...
Баіць ці не?
— Баіць!

Бегаў бай па сьцяне...
Труцень кажа: „Дайце мне
Глянуць, пчолкі, у вульлёк,
Паспытаці ваш мядок!“...
Баіць ці не?
— Баіць!

Бегаў бай па сьцяне...
Ці так добра, ці так не, —
Пчолкі добрымі былі,
Трутня ў госьці прынялі...
Баіць ці не?
— Баіць!

Бегай бай па сьцяне...
Труцень пальцам ня кіўне;
Пчолькі мёд нясуць да сот,
Труцень есьць ды есьць той мёд...
Баіць ці не?
— Не!

**Янка Купала.**

(З „Безназоўнага“)

мысловых буржуазных дзяржаў моц гэтай сялянскай „ідэі-сілы“, што йдзе ў сьвет — на зьмену панаваўшых у ім іншых.

Кожнаму ясна, што перадавой рэвалюцыйнай сілай у сучаснасьці ўсюды на сьвеце на мейсца сацыялізму, як было да вайны, цяпер зьяўляецца камунізм. А калі-б мы запыталіся, чым камунізм розьніцца ў груньце ад сацыялізму, дык адказ—зусім ясны: камунізм ёсьць рэвалюцыйны сацыялізм, нябывала ўмацаваны новай магутнейшай „ідэяй-сілай“ сялянскай... Гэта саюз пралетарыяту места з сялянствам—вось тое новае, што ўносіць камунізм у гісторыю, чаго не ставала бяссільнаму, бо ня лічыўшамуся і пагарджаўшаму сялянствам даваеннаму сацыялізму. Гэты саюз — дый толькі ён — можа забясьпечыць абодвум саюзьнікам перамогу, як калісь такі-ж самы саюз абшарніка з прамысловай буржуазіяй забясьпечыў ім аж да нашых часоў панаваньне над сьветам.

Вялікая гістарычная роль расейскага камунізму якраз і зьмяшчаецца ў апрацаваньні ідэалёгіі і практыкі гэтай новай „гістарычнай пары“, што йдзе на зьмену трухлеючай на нашых вачох старой абшарніцка-буржуазнай. І вось мы бачым, як гэта ні дзіўна, што побач з гучнымі гутаркамі і чуткамі аб маючым вось-вось ужо распачацца вялікім сусьветным „крыжавым паходзе“ на камуністычную Расею, побач з запраўднымі высілкамі паасобных дзяржаваў раздушыць у сябе гэтых „ворагаў дзяржаўнага і сацыяльнага ладу“,—бачым і ўсё магутнеючыя ўплывы на ўрады і грамадзянства найбольшых дзяржаваў якраз гэтага самага камунізму.

Сучасны, так сказаць, „пасьмертны“ сацыялізм, які цесна зьвязаны, як паказаў Маркс (прынамся ў сваей эвалюцыйнай палове) з буржуазным ладам, рашуча становіцца ўсюды на сьвеце на бок буржуазіі. Нашыя пэпээсы — найярчэйшы гэтага прыклад. Але яго найбольш жывыя і запраўды пралетарскія, а не па сутнасьці буржуазныя элемэнты, адходзяць масова ў камунізм...

Сялянская ідэя, ідэя „новай гістарычнай пары“, уваходзе ў сьведамасьць сусьветнага сацыялізму і раскалывае яго, на два варожыя станы.

Яркай азнакай гэтага магутнага руху ў сусьветным сацыялізьме зьяўляецца анкета, разасланая Брусэльскім Агенцтвам Сацыялістычнай Працы ўсім выдатнейшым дзеячом міжнароднага сацыялізму.

Анкета якраз і ставіць рад пытаньняў аб магчымасьці ў культурнай Эўропе і найлепшых мэтадах таго злучэньня мястовага сацыялізму з сялянствам, якое ўжо сталася фактам на варварскім Усходзе“—у ССРР... Усе атрыманыя дагэтуль адказы выдатнейшых сацыялістаў сцьвярджаюць вялікае значэньне і пажаданасьць гэтага злучэньня. А мы-ж ведаем, што гэтае злучэньне — сутнасьць камунізму. У Англіі, дзе правіць, быццам паўнаўладна, найбольш варожы камунізму ўрад, які ўсё арганізуе, толькі ніяк ня можа зарганізаваць, — „сусьветную коаліцыю“ проці расейскага камунізму, там камунізм як раз расьце, як на дрожджах. Магутныя англійскія Праф Саюзы, па міма „кіраўніцтва“ сацыялістычнай партыі, увайшлі ў цесны кантакт з расейскімі, якія працуюць у поўным паразуменьні з радавым урадам. Сярод першамайскіх мітынгаў у Лёндане і ў іншых местах Англіі найбольш многалюднымі былі—камуністычныя (камунізм у Англіі не перасьледуецца); у мітынгах прымалі ўчасьце шмат паслоў... Характэрным і паказальным зьяўляецца і тое, што на толькі што адбытых дадатковых выбарах у адным з акругоў—з трох канкурэнтаў (лібэралы ўжо ня йдуць у лік...) перамог і кансэрватара і сацыяліста — камуніст Пэрсэль. Найцікаўней і найпаказальней тое, што ў англійскіх найбольш буржуазных газэтах усё часьцей зьмяшчаюцца артыкулы, якія пасьля страшэнна панурага і безнадзейнага аналізу сучаснага палажэньня Англіі, канчаюць вывадам, што мо' й запраўды Англіі трэба спрабаваць штось у родзе такой грунтоўнай і радыкальнай рэформы ці перабудовы ўсяго дзяржаўнага і сацыяльнага ладу, аб якой кажуць маскоўскія камуністы, каб ад іх ратавацца іх-жа аружжам!.. А вось адна з найвялікшых буржуазных газэтаў Англіі дык навет замовіла ў Троцкага рад артыкулаў на тэму: „якім спосабам Англія магла-б... без рэвалюцыі — зьмяніць дзяржаўны і сацыяльны лад на... радавы лад“... Зразумела, што ніякі Троцкі ня зробіць для Англіі гэткіх „пігулак ад зямлітрасеньня“, як сьмяяўся нядаўна памершы лёрд Керзон. Але ў кожным разе характэрны гэты глыбокі і дальназоркі палітычны сэнс англійцаў, якія, ужо пачуўшы неадхільную катастрофу іх векавога ладу, на якім збудавана ўся іх улада над сьветам, ужо ізноў шукаюць паразуменьня з тымі, на каго быццам рыхтуюць „крыжавы паход“, бо пазналі іх неперамажную для сябе сілу. А адначасна хочуць пераймаць ад іх і тыя спосабы, якія забясьпечваюць тым ворагам іх перамогу... Вось—адна з прычын пасыўнасьці і бязуладнасьці Англіі — у барацьбе з камуністычнай ССРР.

Хто-ж будзе адмаўляцца ад таго, што шмат чаго жорсткага, крывавага і страшэннага зроблена, робіцца і зробіцца яшчэ на вялікім цярністым шляху да перамогі новай гістарычнай пары ў сусьвеце? Заўсёды такі крывавы шлях гісторыі. Але перамога гэтай пары—ясна ўжо відочна і ня стрымаецца нічым. То рэвалюцыйна, то, можа, (дзе людзі--разумнейшыя!)эвалюцыйна настане гэтая пара—мястовы працаўнік і селянін-земляроб—дойдзе да ўлады, распачаўшы новы, пабудаваны на чыстай і вольнай працы вялікі пэрыяд гісторыі.

У кожным разе селянін, дзе б ён ні быў, што-б ён цяпер ні цярпеў, можа быць спакойны за сваю будучыну—навет вельмі блізкую. — Яго справа—у моцных руках, бо прышла гістарычная чарга на сялянства.

Калі трашчыць па ўсіх швах наймацнейшая крэпасьць сусьветнага імпэрыялізму—Англія і — бяссільна перад апіраючайся на сотнях міліёнаў сялянства ССРР, дык нашаму брату—беларусу дапраўды-ж зусім няма чаго баяцца, чым больш ад яго адымуць цяпер, тым больш ён возьме назад пасьля...

**А. П.**

Талін.

што, дзякуючы інтэрвэнцыі ўлады, канфлікт з рудакопамі значна зьмяк. З абодвух бакоў згадзіліся начаць перагаворы.

— Француская прэса піша, што безрабоцьце ў англійскай горнай прамысловасьці, а перад усім вугальнай, шыбка расьце. Яшчэ ў чэрвені леташняга году безработных вуглякопаў было толькі 30.000, а ў чэрвені сёлетняга году лічба іх дайшла ўжо да 314.600 душ. Старшыня саюзу горных работнікаў заявіў, што на кожнага з 4 работнікаў прыходзіцца адзін безработны, а з трох астаўшыхся 2 маюць толькі каля паловы нармальнага заробку.

### Англа-румынскі канфлікт.

Англійскі пасол у Бухарэшце падаў румынскаму ўраду вострую ноту проціў высяленьня паліцыяй англійскіх грамадзян з Румыніі. Высяленьне праводзіцца на падставе закону, выданага пасьля вайны. Цяпер-жа з усей строгасьцяй закон гэты скіраваны проціў англійцаў.

### Міністэрскі крызіс у Чэха-Славакіі.

Канфлікт з Ватыканам выклікаў габінэтны крызіс у Чэха-Славакіі. Сацыялісты дамагаюцца зрыву зносінаў з Рымам і аддзяленьня царквы ад дзяржавы. На дамаганьне сацыялістаў два сацыялістычныя міністры падаліся ў адстаўку, трэці міністар—сацыял. Бэнэш застаецца на сваім месцы дзеля неабходнасьці бесперарыўнасьці загранічнае палітыкі.

### Раскрыцьце шпіёнскай арганізацыі ў Чэха-Славакіі.

У Чэха-Славакіі раскрыта вялікая шпіёнская камуністычная арганізацыя. У сувязі з гэтым арыштаваны генаральны сэкратар чэха-славацкай камуністычнай партыі і яшчэ 4 асобы.

### Катаваньне сялян у Бэсарабіі.

У румынскай сялянскай газэце „Таранізмул" прыведзены лічбы ахвяр таго страшэннага тэрору ў Бэсарабіі, якім трымае румынскі ўрад гэты „чыста румынскі" край, у каторым румынскім зьяўляецца толькі нагнанае ў край войска, чыноўніцтва і асаднікі (вельмі падобныя да нашых „крэсавых адносінаў).

Ад часу „далучэньня" Бэсарабіі да „мацежы Румынскай" у 1918 г. усяго забіта ўрадавым тэрорам — па „суду" і бяз суда—15.333 асобы, пераважна сялян. У тым ліку ў 1919 г.—3.000, у 1919—11.000 (у часе так-званага Хацімскага паўстаньня), у 1924 г.—1.300 (паўстаньне ў Татарбунары).

Дагэтуль вастрогі ў Бэсарабіі перапоўнены сялянамі—навет старыкамі, кабетамі і дзяцьмі.

Сярод гэтых вязьняў шмат такіх, што чакаюць суду гадамі, што перанясьлі стрэшэнныя катаваньні ў румынскай жандармэрыі (сігуранцы).

На паседжаньні Сойму нядаўна пасол Якубэскі заявіў, што нядаўна ў вастрогах па загаду каманданта сігуранцы забіты 13 вязьняў-сялян.

„Walka Wsi" піша: „У Баўгарыі далей пануе крывавы тэрор ураду Цанкова. Што дзень адбываюцца казьні, скрыпяць шыбеніцы, раздаюцца залпы карабінаў, расстрэліваюць сялян і работнікаў.

26./VI. гэтага году польская Незалежная Сялянская Партыя зрабіла ў Сойме інтэрпэляцыю ў справе бяспрыкладных гвалтаў над сялянамі і работнікамі ў Баўгарыі. Але, нажаль, маршалак Сойму ня прыняў інтэрпэляцыі, заявіўшы, што „Польшча знаходзіцца ў дружбе з урадам Цанкова", які ў апошні час, каб затушаваць ураженьне чыненых забойстваў і гвалтаў, гойна раздаваў ордэры міністрам і маршалкам розных (прыязных) дзяржаваў".

Цікава наагул гэтая „прыязьнь" Польшчы з урадам Цанкова, які аб'явіў вайну на сьмерць 90 проц. насяленьня Баўгарыі,—яе сялянству.

### Пашыч сфармаваў габінэт.

Распусьціўшы габінэт, Пашыч запрапанаваў каралю зацьвярдзіць новы габінэт і выказаў надзею, што прысутнасьць у габінэце міністраў з партыі Радіча прынясе карысьць дзяржаве. Радіча выпусьцілі з турмы, і ён прыехаў у Белград. У нова ўтвораным габінэце будуць 4 міністры з партыі Радіча.

### Дзяржавы робяць „уступкі" Кітаю.

Як ведама, Кітай выставіў дзяржавам 13 пунктаў, у якіх зьмясьціў усе тыя свае трэбаваньні, якія ў сваей прамове Зіновьев выразіў значна карацей, бо ў 2—3 словах: „вон з хаты". І вось, цяпер імпэрыялістычныя дзяржавы згадзіліся на 2 з гэтых 13 пунктаў. Яны згадзіліся „дапусьціць кітайскіх прадстаўнікоў у шанхайскую мястовую раду" (гэта—у кітайскім месьце, на кітайскай дзяржаўнай тэрыторыі!) і—„даць кітайцу голас у міжнародным судзе"—(ізноў на кітайскай дзяржаўнай тэрыторыі!).

### Палажэньне ў Кітаі.

Кітайская торговая палата пастанавіла парваць торговыя зносіны з англійскімі і японскімі фэрмамі і абвясьціла байкот тавараў гэтых дзяржаваў.

Англійскі консул у Кантоне запрапанаваў усім англійцам пакінуць места Фу-Чоў, бо там вельмі ўсіліўся байкот англійцаў. Амэрыканская кананёрка ў порце Фоў-Чоў пазбаўлена магчымасьці атрымоўваць правіянт.

# ХРОНІКА.

**Беларускія дэпутаты** з прычыны прыпыненьня да восені працы Сойму разьехаліся ўжо на лета дахаты. Гэтак беларускае сялянства здалее навязаць беспасярэднія зносіны з сваімі выбранцамі і пачуць ад іх (паскольку дапусьціць улада!) справаздачу аб іх барацьбе ў Сойме за зямлю для нашага працоўнага народу.

**У Віленскай Беларускай Гімназіі.** Падгатоўка да новага школьнага году ўжо пачалася. Сёлета прыбываюць дзьве новыя выдатныя пэдагагічныя сілы дзеля выкладаньня ў старшых клясах: грам. А. Луцкевіч (беларуская літэратура) і А. Трэпка (матэматыка).

Дзеля аблягчэньня падгатоўкі вучням, якія маняцца паступіць у гімназію, надрукаваны падробныя праграмы ўсіх навук, выкладаных у гімназіі. Праграмы гэтыя можна дастаць у канцэлярыі гімназіі (Вострабрамская 9).

Як ужо ведама, дзеля экзаменаў для матурыстаў мае быць назначана ўрадавая камісія, і вучні, здаўшыя добра экзамены перад ёй, мецімуць права на паступленьне ў польскія ўнівэрсытэты. Трэба спадзявацца, што з гэтае прычыны наплыў вучняў у гімназію сёлета шмат павялічыцца, бо беларусы здолеюць і ў сваей гімназіі здабыць недасяжныя для іх дагэтуль матуры.

**Беларускія календары на 1926 год.** На будучы год распачаты ўжо друк беларускага адрыўнога календара на 1926 год—лацінікай і кірыліцай з каталіцкімі і праваслаўнымі сьвятцамі. Гэта—першы беларускі каляндар гэтага тыпу.

Адначасна падрыхтоўваецца да друку і каляндар кніжнага фармату.

**Ад Белар. Навуковага Т-ва.** Таварыства шчыра дзякуе грам. Клемансу Грымуце з в. Матылі, Бэрштанскае гміны, за ахвяраваныя для музэю ім. Ів. Луцкевіча рэчы: каменную сакерку, 6 акамянеласьцяў і 3 манэты.

# Беларусы у Латвіі.

### Беларускія Вучыцельскія Курсы.

У Рызе адчынілі новы прыём слухачоў на 1925-26 вучэбны год.

На першы курс прыймаюцца асобы, скончыўшыя ня менш двух клясаў сярэдняе школы, на другі, педагагічны,—скончыўшыя поўны курс сярэдняе школы.

Пры курсах маецца безграшовы інтэрнат і выдаецца грашовая дапамога незаможным і стараным слухачам.

Паступіўшыя на курсы з патрэбнай падгатоўкай і добра скончыўшыя курсы атрымліваюць права выкладаньня ў 6 клясовай пачатковай школе.

Заняткі на курсах пачнуцца каля 15 верасьня.

### Адозва Т-ва Беларусаў—Выбаршчыкаў.

Цэнтральнае Праўленьне Таварыства Беларусаў-Выбаршчыкаў, разгледзіўшы на сходзе 26/VI—1925 г. вынікі ўселатвійскага перапісу, што адбыўся 10 га лютага гэтага году, заўважыла, што паменшаньне ліку беларусаў з 75.630 чалавек да 38.010 чалавек у значнай меры залежала ад таго, што пры перапісу былі дапушчаны з боку некаторых перапішчыкаў неправідловыя запісы беларусаў у велікаросы, як аб гэтым сьведчаць пратэсты, атрыманыя Цэнтральным Статыстычным Упраўленьнем ад беларусаў.

Каб высьвятліць у поўнай меры дапушчаныя пры перапісу неправідловасьці, Т-ва Беларусаў-Выбаршчыкаў зьвяртаецца да беларускага грамадзянства з просьбай, як мага, хутчэй і падрабязьней апісаць выпадкі неправідловых запісаў беларусаў у велікаросы ці ў іншыя нацыянальнасьці, а таксама і аб тых выпадках, калі рабіліся розныя нагаворы і запугіваньні жыхарства, каб яны не рэгістраваліся беларусамі.

Усе заявы і апісаньні Т-ва просіць напраўляць па адрасу: Цэнтральнае Праўленьне Т-ва Беларусаў-Выбаршчыкаў: Рыга, Малая Горная вул. (Riga M. Kalnu iela) № 14/16, пам. 6.

Усе заявы павінны быць за подпісам і з точным адрэсам тае асобы, што прысылае апісаньне.

**Цэнтральнае Праўленьне Т-ва Беларусаў-Выбаршчыкаў.**

# Пісьмо у Рэдакцыю.

*Паважаная Рэдакцыя!*

З тае прычыны, што ў віленскіх газэтах зьявіліся заметкі аб расстрэле ў Менску майго мужа—Уладзімера Шалешкі—былога сэкрэтара Віл. Бел. Гімназіі, у імя праўды і аб'ектыўнасьці лічу сваім абавязкам заявіць, што, хаця я сама асабіста лістоў ад Уладзімера Шалешкі не атрымоўвала, маю перакананьне, што ён жывы. Перакананьне гэнае вынікае з яго лістоў, пісаных да крэўных, якія я сама чытала.

Прашу ўсе газэты, якія падавалі заметкі ў справе Ул. Шалешкі, зьмясьціць вышэй паданае—ці-то ў форме ліста, ці інфармацыяў, вынікаючых з яго.

З пашанай **Аўгенья Шалешка.**





Выдавец: Барыс Леванчук.

Друкарня Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.